



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

2 кастрычніка 2015 года №40 **(1066)**


## Вілейка. Пасярод дарогі "расце" дрэва, таму што бабры прагрызлі дзірку ў асфальце

старонка 2

## Чытач "РГ" паўтара года дамагаўся рамонту бензапілы па гарантыі

старонка 3



## 25 год германскаму адзінству. Немцы даюць інтэрв'ю "РГ"

старонка 5



# Мае настаўнікі

Строгія
Лепшыя
Цікавыя
Загадкавыя
Прыгожыя
Стыльныя
Спагадлівыя
Справядлівыя
Асаблівыя
Прыцыпільныя
Добрыя
Мудрыя
Знаходлівыя
Патрабавальныя
Цярплівыя
Спартыўныя
Неабыякавыя
Жартаўнікі
Сучасныя
Адказныя
Самаахвярныя
Сябры
Са стальнымі нервамі
Жыццелюбівыя
З пачуццём гумару
Добразычлівыя

Кабінет пачатковых класаў 212

Такія характарыстыкі далі сваім настаўнікам чытачы "РГ". На фота – калідор Гльянскай сярэдняй школы.

Працяг тэмы на старонцы 20.

Фота Настассі РОЙДЫ.



Фота Дзяніса КАНЕЦКАГА.

Тадэвуш Козел-Паклеўскі гэтым летам у Вілейцы.

● ПАМЯЦЬ

## Пайшоў з жыцця апошні Козел-Паклеўскі, народжаны на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**У ліпені Тадэвуш Козел-Паклеўскі паспеў наведаць радзіму і даць інтэрв'ю "РГ".**

Пра сумную падзею распавёў кіраўнік вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў **Дзяніс Канецкі.** Яму даслаў ліст з Польшчы ўнук Тадэвуша **Даніэль**, які паведаміў, што дзядуля на днях пайшоў з жыцця.

Падчас размовы з карэспандэнтам "РГ" спадар Тадэвуш сказаў, што паездка на радзіму была складанай фізічна: "За два тыдні да выезду мне далі кардыёстымулятар. А за дзень я паўдня быў у бальніцы, каб зрабілі рэгуліроўку, але ўсё ж дазволілі ехаць".

Мужчына ў свае 83 гады заўзята працаваў: "Я пачаў працаваць у лютым 1950 года, і цяпер працую. Думаю, што яшчэ ёсць работы на некалькі год, яшчэ ўсё не закончыў. Самая лепшая фармакалогія – працаваць, не зніжаць дынаміку жыцця".

Тадэвуш Козел-Паклеўскі нарадзіўся 16 студзеня 1932 года. Сваё дзяцінства правёў у маёнтку ў Кастыках на Вілейшчыне.

У 1939 годзе ён разам з маці, братам і сёстрамі паехаў у Вільню, як параіў знаёмы. Бацька вярнуўся на Вілейшчыну, дзе яго забілі ў вілейскай турме.

Сям'я пераехала ў Польшчу. Там Тадэвуш жыў і працаваў. Некалькі разоў вяртаўся на радзіму, да месца, дзе ляжаць бацькавы косткі.

Цалкам інтэрв'ю з апошнім прадстаўніком роду, які нарадзіўся на Вілейшчыне, чытайце на нашым сайце: Апошні са славутага роду Козелаў-Паклеўскіх, хто нарадзіўся на Вілейшчыне: "Мы прыехалі на святое месца, дзе косці расстралянага бацькі".

● ЗДАРЭННІ

## Забілі птушку года

ВІЛЕЙКА

**У Вілейскім раёне па падазрэнні ў нелегальным паляванні затрымалі групу паляўнічых-мінчан.**

Мужчыны вярталіся з палявання на птушку, калі іх аўтамабіль спынілі для праверкі супрацоўнікі Мінскай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. У салоне знайшлі тушку прыстрэленай вушастай савы.

Кіроўца растлумачыў, што падстрэліў саву па памылцы, пераблытаўшы яе з качкай. Відавочна, страляў па незразумела бачнай цэлі, што ўжо з'яўляецца парушэннем.

За рэдкую птушку, абвешчаную ў Беларусі птушкай года, яму прыйдзецца заплаціць 31,5 мільёна рублёў.

Акрамя сваёй зброі, у аўтамабілі паляўнічыя перавозілі стрэльбу, якая належыць іншай асобе. Большасць знойдзеных у іх патронаў былі зараджаныя карцеччу і кулямі, хоць пры паляванні на птушку дзічыну дазволены выключна шрот.

Яшчэ большыя падазрэнні выклікаў знешні выгляд аднаго з затрыманых: на руках мужчыны былі бачныя бурыя плямы – меркавана, кроў, а на вопратцы – шматкі воўны.

У працэсе разбіральніцтва да месца прыпынку аўтамабіля наблізілася іншая машына. Як толькі дзяржінспектары накіраваліся ў яе бок, кіроўца зрабіў рэзкі разварот і збег.

Вырашаецца пытанне аб узбуджэнні двух крымінальных спраў за незаконнае паляванне.

**Паводле Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

● ДАРОГІ

# Бабры прагрызлі дзірку ў асфальце

ВІЛЕЙКА

**"Куды знікаюць дарожныя паборы?" Гэтак эмацыйна назваў свой ліст у рэдакцыю наш чытач Алесь Раткевіч. Непакоіць яго стан дарог.**

"Плацім немалыя грошы на будоўлю і рамонт дарог. Толькі, на вялікі жаль, ад гэтых папбораў станіх не паляпшаецца, а наадварот, пагаршаецца.

Вось нядаўна скончылі рамонт дарогі Маладзечна-Краснае. А калі ўжо дойдзе чарга да іншых дарог, якія на самой справе даўным-даўно патрабуюць капітальнага рамонту? Дарога Краснае-Ілья. Гэта не дарога, а траса для "Формулы-1". Аб'ехаць выбоіны на ёй нават не здолеюць прафесіяналы.

А каб кавалак дарогі Беражок-Лукавец праехаць, то трэба ўсе 15 вёрст ехаць, кіруючы толькі адной рукой, бо другой даводзіцца слёзы выціраць! А яшчэ, праязджаючы гэты кавалак не дарогі, а "пральнай дошкі", сустрэў на восьмай вярсце пад Хаценчыцамі вельмі небяспечны "сюрпрыз". Там з дарожнага правалу паўметровай глыбіні і дыяметрам каля сямідзесяці сантыметраў вырасці бяроза ды хмызняк пасохлы!

А калісьці мяне вельмі радавала праца вілейскіх дарожнікаў, пра што неаднаразова пісала "Рэгіянальная газета". Землякі, што здарылася?!", – піша ён у сваім лісце.



Фота Алеся РАТКЕВІЧА.

Бяроза, якая "вырасла з прагрызенай бабрамі" дзіркі ў асфальце пад Хаценчыцамі.

### Выбоіну ўтварылі бабры

Адказ атрымалі ад прараба прарабскага ўчастка №2 майстроўскага ўчастка №4 філіяла КУП "Мінскаблдарбуд" ДРБУ-162 **Генадзя Шупенькі**:

– Дзяржпошліна на выдачу дазволу на ўдзел аўтамабіля ў дарожным руху, што спаганяецца з уладальнікаў аўтамабіляў, ідзе ў дзяржаўны бюджэт. Таму, паважаныя аўтааматары, не думайце, што аплачаная дзяржпошліна адразу трапляе на разліковы рахунак той ці іншай дарожнай арганізацыі.

У 2010 годзе выконваўся бягучы рамонт дарогі Лукавец-Хаценчыцы-Беражок (ад 0,3 – да 2 кіламетра). Там ухілялі дэфекты пакрыцця з уладкаваннем паверхневай апрацоўкі. Па меры магчымасці і наяўнасці грашовых сродкаў робіцца ямачны рамонт дадзенай аўтамабільнай дарогі.

Выбоіна на восьмым кіламетры ля Хаценчыцаў утварылася ў выніку падкопу баброў. На момант выяўлення выбоіны не было падручных сродкаў, каб ліквідаваць яе. У мэтах прадухілення ДТЗ на месцы прасадкі асфальту ўстанавілі дрэва, каб здалёк было відаць перашкоду на дарозе і была магчымасць пазбегнуць наезду. На наступны дзень выбоіна была ліквідаваная.

На аўтамабільнай дарозе Маладзечна-Ілья выкананы капітальны рамонт найбольш аварыйных участкаў дарогі (28.635 – 31.035 кіламетры). Таксама выконваўся рамонт гэтай аўтамабільнай дарогі картамі.

Аўтамабільная дарога Маладзечна-Краснае не знаходзіцца на балансе ДРБУ-162.



**Алесь ВЫСОЦКІ**
alvy@tut.by

**Даведка "РГ".** За восем месяцаў ДРБУ-162 па Вілейскім раёне выкананы ямачны рамонт на плошчы амаль 30 тысяч квадратных метраў. За дзевяць месяцаў зроблены два бягучыя рамонты прыпынкаў і два капітальныя рамонты аўтамабільных дарог. На 2015 год аблвыканкамам выдзелена ДРБУ-162 амаль 22 з паловай мільярды рублёў на рамонт мясцовых аўтамабільных дарог. Ад гэтай сумы са сродкаў аплаты дзяржпошліны – больш за 10 мільярдаў рублёў, і практычна ўсе яны прызначаныя на капітальны рамонт дарог.

**У чытача ёсць пытанні да рамонту прыпынку пры павароце на пасёлак Партызанскі. Пра гэта чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў.**

● СПАЖЫВЕЦ

# Гарантыя без гарантыі

МАЛАДЗЕЧНА

**"РГ" распавядае, чым скончылася гісторыя маладзечанца Леаніда Гізулеўскага. Бензапілу, набытую ў мясцовай краме, адмовіліся рамантаваць па гарантыі: не тая паломка. Справа дайшла да суда.**


Фота Настасі РОЎДЫ.

Маладзечанец Леанід Гізулеўскі паўтара года дамагаўся рамонту бензапілы.

Бензапілу Леанід Гізулеўскі набыў паўтара года таму, у лютым 2014-га, у адной з маладзечанскіх крам. Тры разы пакарыстаўся і вярнуў назад, каб адрамантавалі па гарантыі, паколькі аліва не пайшла на ланцуг.

– Набыў пілу ў краме, спадзяваўся, што праблем не будзе, хаця б пакуль гарантыя дзейнічае, – распавядае спадар Леанід. – Калі набываў, казалі: "Прыходзьце, як праблема ўзнікне, усё вырашым". Як кранулася, тлумачэнне ўніверсальнае: сам вінаваты, заліў не тую аліву. Вядома, ёсць пэўныя рэкамендацыі па тым, якую лепш выкарыстоўваць. Але ж гэта не значыць, што можна толькі аднаго віду і ніякага больш. На што тады гарантыя, калі ва ўсім можна зрабіць вінаватым пакупніка?

### Заява пакупніка і адказ крамы

Пасля паломкі, напрыканцы ліпеня 2014 года, Леанід вярнуў пілу ў краму. Цягам месяца паломку не выправілі, пілу не вярнулі, і Леанід напісаў у краму заяву, у якой патрабаваў вярнуць грошы за пілу.

Праз два тыдні ён атрымаў адказ, дзе паведамлялася, што паломка не адносіцца да тых, якія выпраўляюць па гарантыі.

У лісце прычынай выхаду са строю аліўнай помпы называлі траплянне бруду пад яго рабочыя часткі. А выхад са строю бензапілы звязвалі з памылкай пакупніка ў выкарыстанні алівы для змазкі ланцуга. Гэтыя высновы былі зроблены на падставе акта абследавання тэхнічнага стану бензапілы ў гарантыйнай майстэрні.

Вяртаць Леаніду грошы адмовіліся. У лісце патлумачана, што "тавары, якія маюць гарантыйны тэрмін і ў тэхнічным пашпарце якіх ёсць адзнака аб даце продажу, абмену і вяртанню не падлягаюць".

Пасля гэтага пакупнік звярнуўся ў грамадскае аб'яднанне па абароне правоў спажыўцоў. Яму спачатку дапамаглі скласці і накіраваць прадаўцу прэтэнзію. Пасля – скласці іск у суд.

У іскавай заяве ад адказчыка патрабавалі вярнуць грошы за тавар неналежнай якасці – 1 мільён 650 тысяч рублёў. І няўстойку за парушэнне ўсталяваных тэрмінаў вяртання грошай, выплачаных за тавар, – 5 мільёнаў 643 тысячы рублёў. А таксама спагнаць з адказчыка ў мясцовы бюджэт па месцы разгляду іску штраф у памеры 100% сумы, прысуджанай судом на карысць істца – за невыкананне добраахвотнага парадку задавальнення патрабавання спажыўца.

### Юрыст: лепш не даводзіць справу да суда

Складаць прэтэнзію і іск Леаніду дапамагаў юрыст грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства абароны спажыўцоў" **Ігар Савянок**.

Судовы працэс пачаўся сёлета ў верасні. Аднак пакуль працэс цягнуўся, бакі прымірыліся. Крама пагадзілася адрамантаваць пілу.

У выніку Леанід адазваў іск, паколькі пытанні зняліся.

– Найлепш вырашаць канфлікт у дасудовым парадку, – лічыць Ігар Савянок. – Глядзець на пытанне аб'ектыўна і памятаць пра законы. Варта ўзважыць, ці каштуе пытанне таго, каб вырашаць яго ў судзе. Грашовыя страты боку, які прайграе, могуць быць нашмат большымі, чым кошт пытання. Варта ў такіх справах выходзіць з прынцыпаў добразычлівасці, разумнасці і добрасумленнасці. Ёсць законы дзелавога абароту, ёсць паняцце чалавечнасці.

У суботу, 26 верасня, Леанід ужо карыстаўся пілой на сваім лецішчы.

– Усё працуе выдатна, так што я задаволены, – кажа ён са спадзевам, што і надалей піла будзе працаваць без збояў.

### Прадавец: мы маем доказы, што маем рацыю

– У нас ёсць вынікі экспертызы, – каментуе сітуацыю кіраўнік крамы. – Іх мы накіроўвалі пакупніку. Ён з імі не пагадзіўся і запатрабаваў грошы. Аднак гэты тавар не падлягае абмену ці вяртанню. Дзеля таго, каб не працягваць канфлікт, мы пагадзіліся адрамантаваць пілу. Пакупніка гэты варыянт задаволіў.

Кіраўнік крамы зазначыў, што часам узнікаюць непаразуменні, паколькі пакупнікі не заўсёды разумеюць, наколькі тэхніка складаная.

– Аднак усё адно непаразуменні вырашаюцца, інструменты рамантуюцца. Любы чалавек аддае грошы за пэўную рэч у спадзяванні, што яна будзе працаваць. І, натуральна, расчароўваецца, калі здараецца паломка. Уся наша прадукцыя сертыфікаваная. Кожны інструмент мае гарантыйны тэрмін. Таму калі паломка падлягае гарантыйнаму рамонту – мы, вядома, яе ліквідуем, – запэўнівае кіраўнік крамы.

Ён таксама дадае, што важна заўсёды чытаць інструкцыю. Адна дэталь можа ў выніку прывесці да выхаду са строю ўсяго механізма.

# Цяпер юрыдычную дапамогу можна атрымаць бясплатна

**24 верасня ў Маладзечне запрацавала гарадское таварыства па абароне правоў спажыўцоў.**

**Арганізацыя месціцца па адрасе:** вул. Віленская, 12, каб. 23.
**Тэлефоны бясплатнай гарачай лініі:** (8-0176) 50-41-43, 8-029-764-24-07 .
**Графік работы:** панядзелак – субота, ад 11:00 да15:00.
**Сайт** таварыства, дзе можна знайсці карысную інфармацыю: belpotreb.by

Спецыялісты гэтага грамадскага аб'яднання гатовыя бясплатна дапамагчы пакупніку, чые правы парушаюць. Калі прадавец адмаўляецца рамантаваць ці мяняць няякасны тавар, юрысты таварыства дапамогуць скласці і накіраваць прадаўцу прэтэнзію, падаць іск у суд, правесці незалежную экспертызу тавару.

– Да нас ужо пачалі звяртацца, – распавядае кіраўнік кабінета таварыства па абароне правоў спажыўцоў **Кацярына Балашова**. – У аднаго чалавека праблемы з газавым катлом, у другога – з вокнамі, у трэцяга – з МР3-плэерам.

Таварыства не можа ўступіць у спрэчку, пакуль спажывец не паспрабаваў самастойна ўрэгуляваць канфлікт. Ён мусіць пісьмова звярнуцца да прадаўца, напісаць скаргу ці заяву. Калі ёсць адмова прадаўца ў патрабаванні пакупніка альбо калі прадавец ігнаруе скаргу, спажывец можа ісці ў таварыства. Пры гэтым мець усе неабходныя дакументы на прадукцыю, якая яго не задавальняе: квіток, гарантыю ці тэхпашпарт.

– Пасля гэтага мы заключаем дамову са спажыўцом і становімся на абарону яго правоў, – тлумачыць Кацярына Балашова. – Дапамагаем скласці прэтэнзію і накіраваць яе прадаўцу. Калі выніку няма, то звяртаемся ў суд і прадстаўляем інтарэсы пакупніка ў судзе. Калі рашэнне ўступіла ў сілу, але нявыкананае, звяртаемся ў аддзел прымусовага выканання. Гэта значыць, суправаджаем спажыўца на ўсіх стадыях разбору яго прэтэнзіі.

Таксама, калі пэўны прадавец увесь час парушае правы спажыўцоў, таварыства па сваёй ініцыятыве можа падаць іск у суд.


Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
Vel 566-26-99 (працоўны)

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.09 руб. | 1.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 17 603,00 | **17 688,00** |
| Еўра | 19 579,00 | **19 845,00** |
| Злоты | 4 660,52 | **4 685,50** |
| Расійскі рубель | 266,13 | **268,89** |
| Грыўня | 815,90 | **825,31** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 30.09** | | |
| Еўра | 19500/19700 | **19650/19930** |
| Долар ЗША | 17500/17620 | **17550/17730** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 23.09 | 30.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 139 900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53800** |
| Куранябройлер, 1 кг | 26 800 | **26800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 90 000 | **90000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37 900 | **37900** |
| Селядзец, 1 кг | 49 500 | **49500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 105 000 | **115000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 500 | **13500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 15 500 | **16500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 10 000 | **10000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23500** |
| Маянэз, 200 г | 5 000 | **4800** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12 500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 4 900 | **5900** |
| Капуста, 1 кг | 4 900 | **4000** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5900** |
| Баклажаны, 1 кг | 12 500 | **9900** |
| Лімоны, 1 кг | 39 500 | **39500** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 900 | **27900** |
| Мандарыны, 1 кг | 29 900 | **29900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 900 | **29900** |
| Ківі, 1 кг | 24 900 | **34900** |
| Нектарыны, 1 кг | 24 500 | **36900** |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | **5900** |
| Памідоры, 1 кг | 6 900 | **9900** |
| Агуркі, 1 кг | 9 900 | **9900** |
| Перац, 1 кг | 9 900 | **9900** |
| Вінаград, 1 кг | 24 500 | **23500** |
| Бананы, 1 кг | 21 900 | **19900** |
| Кавун, 1 кг | 3 500 | **3500** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 10 000 | **10000** |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | **9900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 17 900 | **19900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | **3500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60000** |


Фота Аляксандра КАЗЛОВА.

Лесвіца, што абвалілася, у нядзелю выглядала так.

# На вуліцы Драздовіча абвалілася лесвіца

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося ў нядзелю, 27 верасня.**

Ля магазіна "Еўраопт", што месціцца па вуліцы Драздовіча, абвалілася лесвіца.

Як расказалі "Рэгіянальнай газеце" відавочцы здарэння, пад лесвіцай у нядзелю стаялі дзве машыны, якія не мелі магчымасці выехаць – пяском засыпала выезд.

Пазней на сайце Міністэрства надзвычайных сітуацый з'явілася інфармацыя пра тое, што абвал лесвіцы адбыўся ў выніку набракання грунту пры выпадзенні вялікай колькасці ападкаў.

Ад бакавой нагрузкі адбылося абвальванне падпорнай сцяны, сканструяванай з жалезабетонных блокаў.

У здарэнні пацярпела 28-гадовая грамадзянка, якая знаходзілася ў адпачынку па доглядзе за дзіцем. Яна была дастаўленая ў бальніцу. Пасля праведзенага абследавання ад шпіталізацыі адмовілася.

Прычына абвальвання грунту ўстанаўліваецца. Таксама высвятляецца, хто кампенсуе жанчыне прычыненую шкоду.

**Наталля ТУР.**

● ЗДАРЭННІ

## Трое астраўчан спрабавалі пераправіць кантрабандныя цыгарэты чыгункай

АСТРАВЕЦ

25 верасня на Астравеччыне смаргонскія пагранічнікі затрымалі трох грамадзян Беларусі, імі аказаліся жыхары Астраўца. Яны ў гаражы населенага пункта Катлоўка хавалі дзесяць каробак з цыгарэтамі, што прызначаліся для пераправы праз мяжу.

Астраўчан афармілі як парушальнікаў памежнага рэжыму, выпісалі павесткі. Але ў той жа дзень кантрабандысты спрабавалі пераправіць цыгарэты чыгункай. Падчас праверкі грузавога саставу Брэст-Малашэвічы пагранічнікі знайшлі чатыры карobкі з цыгарэтамі.

**Паводле Дзяржпамежкамітэта.**

## У Вілейцы сутыкнуліся "Сітраэн" і "Рэно"

ВІЛЕЙКА

Удзень 25 верасня дарожна-транспартнае здарэнне адбылося ў Вілейцы на скрыжаванні вуліц Вадап'янава і Чайкоўскага.

Жанчына-кіроўца ехала на "Сітраэне" па галоўнай дарозе. А па другараднай, з вуліцы Чайкоўскага, на "Рэно-Сандэра" выязджаў хлопец. Адбылося сутыкненне.

Людзі не пацярпелі, машыны атрымалі механічныя пашкоджанні. У "Сітраэне" нават вырвала задняе кола.

Пра гэта паведаміў старшы інспектар ДПС аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Ягор Кузьмічоў**.

**Аддзел інфармацыі.**

● ПРЫСУД

## Абліў бензінам і падпаліў дыванок ля веранды

ВІЛЕЙКА

**Уступіў у законную сілу прысуд суда Вілейскага раёна ад 19 жніўня.**

Тады суд асудзіў і прызнаў вінаватым грамадзяніна ў наўмысным пашкоджанні маёмасці ў вёсцы Асавец на Вілейшчыне.

Мужчына абліў прынесеным з сабой бензінам гумовы дыванок, які ляжаў ля парога веранды дома. Затым падпаліў запалкамі дыванок. Ад яго загарэліся тры дошкі парога і падлогі веранды і драўляны парог уваходных дзвярэй дома.

Гэтым ён стварыў пагрозу жыццю і здароўю людзей, якія знаходзіліся ў доме, а таксама пагрозу знішчэння і пашкоджання дома і іншай маёмасці, расказала вядучы спецыяліст суда Вілейскага раёна **Таццяна Ткачова**.

У выніку наўмысных дзеянняў пашкоджаная маёмасць у буйным памеры.

Мужчыну прызначылі пакаранне ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу на тры гады.

**Аддзел інфармацыі.**

● СЛУЖБА 101

## У Даўгінаве быў пажар – матэрыялы перадалі ў праваахоўныя органы

ВІЛЕЙКА

**Ноччу 24 верасня вілейскім выратавальнікам паведамілі, што гарыць кінуты дом у Даўгінаве.**

Па прыбыцці першых падраздзяленняў будынак гарэў адкрытым полымем. Ля яго былі мясцовыя жыхары.

У выніку пажару будынак выгараў усярэдзіне, знішчаны дах.

Прычына пажару высвятляецца. Будынак не быў электрыфікаваны, у ім даўно ніхто не жыў, расказаў інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Яўген Камароў.**

Матэрыялы перадалі праваахоўнікам.

**Аддзел інфармацыі**



● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## У аварыі ля Маладзечна загінуў 90-гадовы мужчына

МАЛАДЗЕЧНА

Дарожнае здарэнне адбылося 28 верасня каля 22:30 на 76-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач.

У межах горада Маладзечна, каля выезду на Вілейку, 55-гадовая жанчына-кіроўца на аўтамабілі "Рэно" наехала на пажылога мужчыну, 1926 года нараджэння.

Ад траўмаў ён памёр на месцы.

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" расказаў старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Віктар Зяневіч.**

Цяпер вядзецца следства, узбуджаная крымінальная справа.

Дакладна вядома толькі тое, што жанчына была цвярозая, а пешаход перасякаў дарогу ў неналежным месцы.

– Для ўстанаўлення віны кіроўцы будзе праводзіцца следчы эксперымент, – удакладніў Віктар Зяневіч.

Усіх відавочцаў аварыі ён просіць звярнуцца ў Маладзечанскі Следчы камітэт па тэлефоне **77-04-69.**

**Наталля ТУР.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Ля Вілейкі загінуў раварыст

ВІЛЕЙКА

Трагедыя адбылася паблізу вёскі Ручавыя Вілейскага раёна.

А палове восьмай вечара 28 верасня жыхар Вілейкі на аўтамашыне "ДЭУ" здзейсніў наезд на раварыста. Той ехаў наперадзе ля правага краю праезнай часткі ў спадарожным накірунку.

У выніку 50-гадовы жыхар вёскі Ілішавічы ад атрыманых цялесных пашкоджанняў загінуў.

Ровар быў пазначаны святлоадбівальнымі элементамі.

**Паводле МУС Беларусі і ДАІ Мінскай вобласці.**

## Сутыкнуліся "Сітраэн" і "Рэно"

ВІЛЕЙКА

Удзень 25 верасня дарожна-транспартнае здарэнне адбылося ў Вілейцы на скрыжаванні вуліц Вадап'янава і Чайкоўскага.

Жанчына-кіроўца ехала на "Сітраэне" па галоўнай дарозе. А па другараднай, з вуліцы Чайкоўскага, на "Рэно-Сандэра" выехаў хлопец. Ён не саступіў дарогу, у выніку адбылося сутыкненне.

Людзі не пацярпелі. Пра ўсё гэта паведаміў старшы інспектар ДПС аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Ягор Кузьмічоў.**

**Аддзел інфармацыі.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць смаргонца, які паехаў на заробкі ў Партугалію і прапаў

СМАРГОНЬ



Смаргонскі раённы аддзел Следчага камітэта разглядае крымінальную справу наконт зніклага без вестак **Віталя Антонавіча Станкевіча**, 1977 года нараджэння. Ён у красавіку 2002 года паехаў на заробкі ў Партугалію, і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Віталь Станкевіч жыў у Смаргоні па вуліцы Ветэранаў, 6-25.

**Прыкметы на момант знікнення:** на выгляд 24 гады, хударлявага целаскладу, рост каля 172 сантыметраў, русыя кароткія валасы. Асаблівых прыкмет не мае. У чым быў апрануты, невядома.

Калі вы нешта ведаеце пра зніклага мужчыну, патэлефануйце па нумары: **(801592) 42061** альбо прыйдзіце ў Смаргонскі раённы аддзел Следчага камітэта.

**Паводле следчага Смаргонскага РАСК Дзмітрыя Астрынскага.**

# “Мы не маглі ўгэта паверыць”

## 25 год нямецкага адзінства







Фота федэральнага ўрада ФРГ, фатограф Heiko Specht.

Лістапад 1989 года. Мяжа паміж ГДР і ФРГ у раёне Хельмштэдт-Марыенборн.

**З кастрычніка Германія адзначае нацыянальнае свята – Дзень нямецкага адзінства. У гэты дзень у 1990 годзе адбылося афіцыйнае аб’яднанне дзвюх нямецкіх дзяржаў: ФРГ і ГДР. Гэтаму папярэднічала падзенне Берлінскай сцяны 9 лістапада 1989 года.**

**Марк Ноер,** 48-гадовы менеджар, жыхар Штутгарта, расказвае нашаму выданню пра падзеі тых дзён:

– 9 лістапада 1989 года я добра памятаю. Знаходзіўся у казарме. Праходзіў кантрактную службу пасля тэрміновай і за падзеямі назіраў па тэлевізары. Калі сцяна пала, мы не маглі ў гэта паверыць!

Маці Марка **Інгрыд** яшчэ да ўзвядзення сцяны разам са сваімі блізкімі перабралася з Гёрліца, горада на самым усходзе ГДР, у ФРГ. У ГДР жа застаўся адзін з родных братоў, іншыя сваякі. І такіх прыкладаў станавілася ўсё больш і больш:

– Таму і сцяну збудавалі.

Марк Ноер кажа, што заходнім немцам было прасцей прыехаць да сваякоў у ГДР. Усходнім жа на Захад – куды цяжэй. Адзінай магчымасцю для іх былі паездкі на пахаванне сваякоў. І то паасобку, а не сям’ёй – каб не дай бог усе разам не збеглі:

– Калі тут памерла мая бабуля, з Усходу на пахаванне прыехаў толькі яе сын. Астатніх не пусцілі.

Двойчы Марк прыязджаў са сваімі бацькамі ў ГДР. Першы раз у 8-гадовым узросце. Што яго ўразіла ў краіне на ўсходзе? Нізкія цэны і вялізныя чэргі… Вялікая колькасць вайскоўцаў і паліцыі.

– Калі былі ў Берліне, то не маглі пазбавіцца адчування, што ўсходнім нашым сваякам было нешта ніякавата з намі. Магчыма, баяліся быць абвінавачанымі ў сувязях з заходнімі грамадзянамі.

Мой субяседнік згадвае выпадак, калі нейкія хуліганы скралі з БМВ Маркавага бацькі эмблему. Той заявіў у міліцыю. Яго апыталі ў пастарунку каля паўгадзіны. А сваяка-ўсходніка пасля – дзве:

– Пра што можна было размаўляць дзве гадзіны? – перапытвае сам сябе Марк.

Сёння ўз’яднанне, па меркаванні Марка, гэта ўжо не вострая тэма, а паўсядзённасць. А аб памылках, якія былі зроблены ў працэсе аб’яднання ў пазнейшы час, яго блізкія не дыскутуюць.

Мы вяртаемся да памятнага Марку дня, калі ён убачыў па тэлевізары падзенне сцяны. Што пераважала больш: асабістае ці гонар за ўсю нацыю? Марк Ноер упэўнены, што так, ён быў вельмі рады за тое, што сям’ю не падзяляюць больш межы, але была і радасць за ўсіх немцаў, што яны вярнулі сабе права свабодна перамяшчацца і адчуваць сябе адзіным народам.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**
**Аўтар дзякуе Марку і Святлане НОЕРАМ за магчымасць арганізаваць гэту публікацыю.**



# Што кажуць немцы пра аб’яднанне

Рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты” папрасіла Марка Ноера зрабіць спецыяльна для чытачоў “РГ” апытанне сярод сваіх суайчыннікаў. Што азначае для сённяшніх немцаў уз’яднанне Германіі, ці чаканым у свой час было ўз’яднанне, ці дапускалі яго магчымасць?

**Карын Ланге** (Karin Lange), 65 гадоў, пенсіянерка, Мангейм, былая Заходняя Германія.

Я асацыюю ўз’яднанне Германіі як высокую эканамічную нагрузку для Захаду. Дзякуючы ўз’яднанню нямецкага народа стала магчымым наведванне сваякоў у абодвух кірунках. Ці чакала аб’яднання? Не. Меркавала, што раздзяленне будзе яшчэ доўгім. Уз’яднанне чакалася толькі праз доўгі тэрмін. Магчымасць яго абмяркоўвалі, бо ў маёй мамы было шмат радні ва Усходняй Германіі.

**Хрыстаф Хохштэйн** (Christoph Hochstein), 51 год, адвакат, Ляйнефельдэ, былая Усходняя Германія.

Што для мяне ўз’яднанне? Свабода! Свабода падарожнічаць, свабода казаць тое, што я хачу, свабода займацца сваёй прафесіяй, магчымасць пазнаёміцца з маёй жонкай з Расіі. Уз’яднання не чакаў ніколі. Хаця з-за асабістых абставін мне дазвалялася выязджаць на Захад, з-за фінансавых цяжкасцяў я сабе не змог гэтага дазволіць. У першую паездку на Захад я патраціў 110 нямецкіх марак, грошы, якія выдаваліся усходнім немцам як падарунак – на бананы, капронавыя калготкі і жуйкі, якіх тады не было ў ГДР.

Канешне, мы заўсёды гаварылі пра ўз’яднанне. І па сёння гэта робім. Тэмай было і ёсць: як можна было найбольш аптымальна правесці аб’яднанне: праз паступовае паралельнае выраўноўванне дзвюх палітычных і эканамічных сістэм ці далучэнне Усходу да Захаду, ці новая канстытуцыя, якая б увабрала ў сябе лепшае ад абедзвюх сістэм.

**Лотар Штобравэ** (Lothar Stobrawe), 50 гадоў, начальнік вытворчасці, Вайнштадт, былая Заходняя Германія.

Аб’яднання не чакаў. Для мяне і майго навакolля гэта не было важным, бо не было сямейных і сяброўскіх сувязяў на Усходзе. Мяркую, што я мог бы сёння ад некаторых новых кантактаў нават адмовіцца, хаця ёсць шмат такіх, якія цяжка губляць.

**Фолквін Зібэ** (Volkwin Siebe), 56 гадоў, інжынер, Марль, былая Заходняя Германія.

Як пачатак аб’яднання гэта было ўжо пазітыўна. Калі ў 1989 годзе жыццё прыйшло ў рух, я чакаў уз’яднання, але з вялікім сумневам, што гэта сапраўды адбудзецца. З маёй мамай мы абмяркоўвалі ўз’яднанне. Але ў маёй уласнай сям’і – не. Бо мая былая жонка – не немка.

**Зігфрыд Бобэ** (Siegfried Bobe), 72 гады, пенсіянер, Бон, былая Заходняя Германія.

У 1987 годзе я збег з ГДР на Захад. Дзякуючы ўз’яднанню стала магчымым узнаўленне кантактаў з маёй сям’ёй і сябрамі. З часам гэты дзень стаў як звычайны, але раней мы адзначалі яго як свята. Я не чакаў такіх падзей. Літаральна за некалькі дзён да падзення сцяны я сказаў сваім сябрам, што яна будзе стаяць вечна. Што ні кажы, у кожным выпадку адзін з трох жыхароў Усходняй Германіі быў або супрацоўнікам разведкі, або інфарматарам Штазі (аналаг савецкага КДБ – рэд.). У сяброўскім коле мы размаўлялі пра магчымасць уз’яднання, але не верылі ў яго.

**Юрген Петэрс** (Jürgen Peters), 63 гады, пенсіянер і страхавы агент, Малентэ, былая Заходняя Германія.

Асабіста мне ўз’яднанне нічога не прынесла. Чакаў яго хаця б таму, што ў гэтым працэсе актыўна ўдзельнічаў Гарбачоў і было ўсведамленне з’яднанасці народа ГДР (маюцца на ўвазе мірныя дэманстрацыі ў ГДР у апошнія гады існавання ГДР – заўвага Марка Ноера). Мы размаўлялі на гэту тэму раней, і былі розныя меркаванні. Ад таго, што трэба вышэй Сцяну збудаваць, да радасці ад адзінства, якое неўзабаве настане.

**Штэфан Дальхеймер** (Stephan Dalheimer), 50 гадоў, менеджар свабоднай эканомікі, Штутгарт, былая Заходняя Германія.

У маім бачанні ўз’яднанне Германіі ёсць само сабой зразумелая рэч. Калі летам 1989 года Венгрыя адкрыла мяжу ў Аўстрыю, я ведаў, што будзе адно з двух: або аб’яднанне Германіі праз год, або вайна. Гарбачоў рабіў уражанне, што вайны не будзе. Падзенне Берлінскай сцяны я ўбачыў на ўласныя вочы проста ля Чэкпоінт Чарлі (КПП на мяжы Усходняга і Заходняга Берліна – рэд.) Уражанні нельга пераказаць, на сэрцы добрае пачуццё.

З кастрычніка 1990 года я быў і на святкаванні ўз’яднання Германіі ў Берліне. На свяце панаваў добры настрой, але людзі выглядалі хутчэй сціпла, без асаблівай эйфарыі, проста радаваліся таму, што адбываецца. Для нас як для нацыі ўз’яднанне Германіі натуральна, хаця ва ўсходніх немцаў яшчэ адчуваецца сувязь з Усходам, што асабіста мне падабаецца.



Падрыхтаваў Марк НОЕР, ФРГ.




Вучань ільянскай школы Вова Буркевіч праводзіць экскурсіі, расказвае гасцям пра сваю калекцыю тнкаў, самалётаў і запалкавых каробкоў.

МУЗЕІ

# Вучань ільянскай школы два гузікі 1812 года выменяў за халву

ВІЛЕЙКА

**У Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаца працуюць два школьныя музеі: літаратурны і гістарычны. Трапляючы ў іх, цікавыя экспанаты і больш чым 20-гадовая гісторыя музеяў адыходзяць на іншы план, бо слухаеш экскурсію, якую тут праводзяць шасцікласнікі.**

10 вучняў, а гэта **Марыя Аўчыннікава, Наталля Камінская, Марыя Шмаргалава, Леў Стацюк, Ліза Артамонава, Ягор Моўчан, Антон Гаўрылік, Дзмітры Трубач, Уладзімір Буркевіч, Святлана Руткоўская**, праводзяць экскурсіі ў музеі "Вілейшчына літаратурная" як для малодшых школьнікаў, так і для гасцей, якіх у школе бывае нямала.

Гісторыка-краязнаўчым музеем кіруе **Людміла Маркевіч**. Працуе ён ў школе ад 1995 года.

А літаратурна-краязнаўчы музей яшчэ ў 1992 годзе стварыла настаўніца гэтай школы **Роза Шэрая**, якая і сёння з'яўляецца яго адзіным кіраўніком.

Дзейнасць вучняў і калег Розы Канстанцінаўны, якія збіраюць фонды музея, не абмяжоўваецца толькі зборам матэрыялаў пра славутых людзей, чые вытокі тут, на Вілейшчыне. У цэнтры ўвагі і героі сённяшняга дня – дзеячы навукі і культуры, ветэраны, працаўнікі.

Экскурсіі, гэта далёка не ўся праца, якой займаюцца вучні са сваім кіраўніком.

**Рэгулярна ладзяцца сустрэчы ў літаратурнай гасцёўні, вядзецца ліставанне з людзьмі, якія лёсам звязаны з Вілейшчынай, праводзяцца прэзентацыі кніг і шмат чаго іншага.**

– Мы праводзім экскурсіі з другога класа, – наперабой расказваюць дзеці. – Вельмі падабаецца. Асабліва, калі дарослыя дзякуюць і ўважліва слухаюць.

– А мне, – кажа Антон Гаўрылік, – аднойчы пап-корн падарылі ў якасці падзякі. Жанчына нейкая сказала, што ёй вельмі спадабалася экскурсія, а як падзякаваць мне, яна не ведала, бо з сабой быў толькі пап-корн.

**– А ці бывае, што забываецеся сваю частку экскурсіі?**

– Не, не бывае. А! У Льва было, – смяецца Маша Шмаргалава, – але мы ўсе ведаем частку экскурсіі адзін аднаго і, калі трэба, на дапамогу прыйдзем.

Дзеці прызнаюцца, што з імі за час працы экскурсаводамі здаралася шмат чаго. Было нават і такое, што нехта з хлопчыкаў бег на экскурсію і ўпаў акурат пад ногі нейкім пачэсным гасцям.

Але пра такія выпадкі дзеці расказваюць са смехам. І самая галоўная ўзнагарода для іх, гэта падзякі гасцей, настаўнікаў, аднакласнікаў і самых маленькіх вучняў ільянскай школы за тое, што шасцікласнікі з такой цеплынёй расказваюць пра знакамітых землякоў.

## Вучань збірае калекцыю пагонаў на "Полі цудаў" у Ждановічах

Шасцікласнік Уладзімір Буркевіч, акрамя працы экскурсаводам у літаратурным музеі, у школе праводзіць уласную экскурсію. Ён расказвае пра танкі і самалёты.

Калекцыя Уладзіміра пачалася з таго, што аднойчы мама купіла яму часопіс з макетам танка ў маштабе 1:35. З цягам часу калекцыя ўсё папаўнялася і папаўнялася. І неўзабаве дома пачало не хапаць месца для ўсіх танкаў і самалётаў. Тады Уладзімір сабраў сваю калекцыю ў каробкі і аднёс у школу.

Цяпер ён з задавальненнем расказвае пра танкі часоў фінскай, Другой сусветнай вайнаў, пра сучасныя танкі. Вова з заплюшчанымі вачыма можа расказаць пра асаблівасці кожнага экспаната са сваёй калекцыі.

Ён ведае на памяць, колькі важыў кожны танк, колькі адзінак іх было выпушчана, чаму ў адных танках бензабакі навясныя, а ў іншых схаваныя.

Танкі і самалёты – гэта далёка не ўсё, што цікавіць Вову.

Аднойчы ён выменяў у аднаго чалавека два гузікі з шыняля 1812 года за халву. З таго часу Вова збірае гузікі і пагоны.

Па гузікі і пагоны Валодзя ездзіць разам са сваёй мамай на рынак у Ждановічы, які вядомы многім пад назвай "Поле цудаў".

– Тут за невялікія грошы, – кажа Уладзімір, – можна знайсці насамрэч цікавыя і рэдкія рэчы.

На пытанне, чаму Уладзіміра захапіле ваенная гісторыя, ён сціпла адказаў:

– Проста ж, пры дапамозе гэтых танкаў і самалётаў салдаты Вялікай Айчыннай вайны абаранялі маю Радзіму.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

● РЫНАК

# У Вілейцы прайшоў кірмаш пад дажджом. Цэны на прадукты

ВІЛЕЙКА

**На цэнтральнай плошчы Вілейкі 26 верасня прайшоў сельскагаспадарчы кірмаш.**

А палове 11 гадзіны пакупнікоў было няшмат. Бачна, моцны дождж адвадзіў многіх. Але некаторыя падыходзілі, пыталіся, ці будуць прадаваць у наступны раз.

Бульбу прапаноўвалі ў адным месцы па 2 500-2 800 за кілаграм – у залежнасці ад гатунку, у іншым па – 2 800.

За кілаграм капусты прасілі дзе 4 500, дзе 5 000 рублёў. Моркву можна было купіць па 4 тысячы за кілю, буракі – па 3 500.

Свежы карп у залежнасці ад памеру каштаваў ад 30 тысяч да 37 500 рублёў.

**Яблыкі прапаноўвалі па 7 600, грушы – па 10 300. Адзін гандляр прадаваў яблыкі з прыпіскай "антонаўка для аджыкі".**

Хапала розных саджанцаў: і для саду, і для азелянення ўчастка.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Знайшлі кіроўцу, датычнага да смяротнага наезду на пешахода

АШМЯНЫ

**Ён з'ехаў з месца здарэння.**

Уначы 23 верасня каля вёскі Плябанцы Ашмянскага раёна адбыўся наезд са смяротным зыходам на пешахода. Кіроўца з месца здарэння з'ехаў.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку і Дзяржаўтаінспекцыі хутка вызначылі мерканую маркі ("Сітраэн" і "Пежо") і мадэлі аўтамабіляў, пад коламі аднаго з якіх мог загінуць мужчына.

У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў 29 верасня ўстанавілі асобу кіроўцы, датычнага да наезду.

Працягваюцца следчыя мерапрыемствы, якія пралюць святло на ўсе абставіны і прычыны трагедыі.

**Паводле gaigrodno.by.**

ГІСТОРЫЯ

# Міхал Клеафас Агінскі як афіцэр арміі,

## які ледзь не загінуў у паходзе на Валожыншчыну

ВАЛОЖЫН

**Споўнілася 250 год з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. Усе мы яго ведаем як выдатнага кампазітара, палітыка, дыпламата і сенатара. Але мы амаль не ведаем яго як аднаго з самых выдатных афіцэраў арміі Тадэвуша Касцюшкі.**



Лагер паўстанцкіх войскаў. Вясна 1794 года.

Мастак Міхал САХОВІЧ.

Я распавяду пра яго як пра камандзіра аднаго з самых баяздольных палкоў польскай арміі канца 18-га стагоддзя. А менавіта пра паход на Валожыншчыну.

Ён пачаўся ў сярэдзіне чэрвеня 1794 года з Вільні. На чале Агінскага было 300 салдат, але ён папрасіў яшчэ 200 кавалерыстаў у генерала Ясінскага, каб стварыць найбольш магутны вайсковы атрад, які б змог супрацьстаяць любому злучэнню рускай арміі. І такую дапамогу атрымаў.

Галоўнай мэтай паходу было:

1. Прарвацца ў Белую Русь і падняць на паўстанне 12 тысяч мужыкоў з маёнткаў Агінскага, якім было абяцана вызваленне ад прыгону.

2. З іх дапамогай ачысціць Вялікае Княства Літоўскае ад расійскай арміі.

Але найлепей будзе, калі раскажа пра гэта сам Міхал Клеафас Агінскі. Вось урывак з яго "Мемуараў пра Польшчу і палякаў ад 1788 года да 1815-га".

### Утварылі авангард

"Праз некалькі дзён пасля майго вяртання ў Вільню, я пайшоў да генерала Ясінскага, каб заявіць яму, што калі хоча даць мне 200 чалавек кавалерыі з добрым афіцэрам, на якога можна паспадзявацца, то я злучыў бы з імі маіх стральцоў і ўтварыў авангард арміі, якая ў той час была бяздзейнай, або яе пасунуць аж да Мінска. Калі б мне ўдалося без адчування вялікага супраціўлення дайсці датуль, змог бы ўторгнуцца ў Белую Русь і падняць на паўстанне каля 12 тысяч сялян, якія знаходзіліся ва ўладаннях маёй сям'і, надаючы ім вольнасць і ўзмацніўшы іх усялякімі падмацаваннямі, якія б толькі мог паспешна дастаць.

Дапускаў, што можна будзе без цяжкасцяў выклікаць хваляванні жыхароў тых ваколіцаў, што выказалі жаданне прыняць удзел у нашым паўстанні. Гэты крок павінны быў змусіць маскоўскае войска сканцэнтравацца каля граніц царства і пакінуць усю Літву…

Праз колькі дзён пазней пакінуў Вільню з 200-мі кавалерыстамі пад камандаваннем маёра Корсака і 300-мі чалавекамі майго атраду стральцоў. Прайшлі міма галоўнай кватэры (стаўкі арміі – тут і далей заўвагі аўтара), якая знаходзілася у Ашмяне, за сем міль ад Вільні, і прасунуліся на тры мілі наперад – да бору.

На працягу першых дзён мне зусім не шанцавала з-за моцных атрадаў казакоў, якія не пераставалі нас непакоіць.

**Наперакор трываламу жаданню рухацца аж да Мінска, звярнуўся да генерала Ясінскага, каб той выслаў моцны авангард да бору, які меў намер пакінуць, і рушыў у паход, каб, прайшоўшы праз Вішнеў (цяпер – Вішнева), неспадзявана ўдарыць на Валожын, дзе, па звестках, знаходзілася 300 чалавек маскоўскай пяхоты і паўсотні казакоў…**

### Трафеі ў Валожыне

Усе тыя меры перасцярогі аказаліся непатрэбнымі, паколькі засталі мы толькі 40 салдат з трыма унтэр-афіцэрамі і адным паручнікам. З абодвух бакоў прагучала некалькі стрэлаў, афіцэр быў цяжка паранены, некалькі салдат забіта, астатнія склалі зброю і былі ўзятыя ў палон.

Каля 15 казакоў, якія ўцяклі як толькі першымі ўбачылі нашу кавалерыю, паднялі трывогу ў ваколіцах і заўчасна папярэдзілі Мікалая Зубава, які ехаў у Валожын.

Ён, адчуваючы сябе ў поўнай бяспецы, трапіў бы ў нашы рукі, будучы толькі за паўмілі ад Валожына і не спадзеючыся там нас застаць. Але спешна вярнуўся туды, адкуль прыйшоў. А адтуль потым аддаў загад акружыць мяне з усіх бакоў і перарэзаць адыход.

Паколькі я не ведаў гэтага, то не памяняў сваіх планаў і пайшоў далей. Знайшоўшы ў Валожыне многа прадметаў са скуры, волава і жалеза, якія забралі ў мясцовых жыхароў, падобна як і вялікія статкі і некалькі соцень валоў, якіх таксама сабралі для маскоўскай арміі.

Неадкладна адправіў палонных і ўсё, што трапіла ў нашы рукі, да галоўнай кватэры, дзе Несялоўскі часова замяніў Ясінскага.

Сказаў адвесці гэты транспарт пад эскортам 20-ці кавалерыстаў, а самі, не маючы лішняй хвіліны, праз некалькі гадзін адпачынку рушылі на Івенец, малое мястэчка за 15 міль ад Вільні.

### Захапілі кур'ера

Непадалёк ад Валожына напаткалі двух маскоўскіх кур'ераў, якія везлі загады з Пецярбурга для арміі. Затрымаў іх, маючы пры сабе толькі ад'ютанта і двух маладых пяхотных афіцэраў.

Адзін з тых кур'ераў, стрэліўшы па нас з пісталета, знік у кустах. Другі быў узяты з торбай для лістоў і пасланы пад эскортам у галоўную кватэру. Гэта другая перасылка, як і першая, прыбыла на месца прызначэння без перашкод. Але эскорт, які яе суправаджаў, не здолеў злучыцца з намі. І гэта было першым знакам, што стасункі нашы перарваныя.

Прыбыўшы да Івенца, не знайшлі тут маскоўскіх войскаў, таму што тыя адышлі паспешна, пачуўшы вестку пра наш падыход. Таксама былі здзіўленыя і заклапочаныя, убачыўшы мноства амуніцыі, мундзірнага сукна і іншых прадметаў экіпіроўкі арміі. Гэта былі вырабы з серабра, медзі, волава, пазабіраныя ў мясцовых людзей і змешчаныя у розных складах і магазінах".

### Непрыяцель дае драла

Пасля ўступлення ў Івенец Агінскі дасылае наступны рапарт генералу Ясінскаму: "Непрыяцель перад намі дае драла. Егеры і казакі, якія тут знаходзіліся, пры чутцы, што Войска Польскае блізка, уцяклі так шыбка, амаль што без сёдлаў на конях пакінулі гэта мястэчка, толькі егера і аднаго адстаўшага нам удалося схапіць. Здабыча наша ў сукне, зброі, амуніцыі, срэбры, муцэ, павозках і жалезе можа каштаваць да некалькі соцень тысяч злотых.

Да перасылкі яе трэба многа сродкаў. Войска Маскоўскае ад Нясвіжа і Мінска да Беніцы гэтымі днямі цягнулася, але ў невялікай колькасці. Люд тутэйшы, абрадаваны прыбыццём нашага войска, сустракаў мяне хлебам і соллю па-за мястэчкам. Рухаемся смела. Нічога дэтэрмінацыі маёй змяніць не можа. І калі б тысячы разоў жыццё маё мог страціць, тысячы разоў зрабіў бы гэта з ахвотай для любай Айчыны.

Гэта ёсць адзінадушнае імкненне ўсяго нашага корпуса, які альбо славай пакрыты вернецца, альбо стосам трупаў стане пры абароне Айчыны.

Хачу, каб у Ракаве, дзе Масква яшчэ стаіць, нягледзячы на ахову маёй маёмасці, магазіны і амуніцыя маскоўская былі падпаленыя".

**Далей Агінскі піша: "Вагаўся перад прыняццем рашэння: ці нам пайсці далей, кінуўшы гэту здабычу, якая каштавала некалькі соцень тысяч польскіх злотых, ці таксама эскартаваць яе самому з усім маім атрадам, трымаючыся бакавой дарогі.**

Пакінуў сваё ваганне, даведаўшыся, што губернатар Мінска Няплюеў сканцэнтраваў у горадзе усё войска з ваколіц, забарыкадзіраваўся з усіх бакоў. Перад гэтым ён выставіў вялікую колькасць узброеных сялян, паставіўшы іх пад першы агонь.

Вестка пра гэта схіліла мяне да злучэння з галоўнымі сіламі арміі. Вялікай цяжкасцю было знайсці транспартныя сродкі, каб вывезці трафеі, якія ледзьве ўмясціліся на 200 мужыцкіх вазоў. Выпадак дапамог. Але толькі не доўга карыстаўся я ўсім гэтым".

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар Івянецкай бібліятэкі.**

КАЛЯНДАР

### 2 КАСТРЫЧНІКА

**215 гадоў** назад (1800) памёр Мацей Радзівіл, драматург, кампазітар.

### 4 КАСТРЫЧНІКА

**1582 год.** У Рэчы Паспалітай уведзены грыгарыянскі каляндар.

**75 гадоў** з дня нараджэння (1940) Анатоля Алая, беларускага рэжысёра, аператара, сцэнарыста дакументальнага кіно, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

### 6 КАСТРЫЧНІКА

**270 гадоў** з дня нараджэння Францішка Смуглевіча (1745, Варшава), жывапісца, графіка, педагога, заснавальніка беларускай і літоўскай нацыянальнай школ жывапісу. Творчасць звязаная з мастацкім жыццём Польшчы, Літвы, Беларусі, Расіі. Пісаў карціны для касцёлаў Варшавы і іншых гарадоў Польшчы. У віленскім касцёле Святых Пятра і Паўла знаходзіцца адно з палотнаў Смуглевіча на рэлігійную тэму – "Развітанне св. Пятра і Паўла" (1804). Аўтар цыкла акварэляў з краявідамі архітэктурных помнікаў Вільні (1785, мастацкі музей Літвы), якія маюць значэнне крыніцы каштоўнай іканаграфічнай інфармацыі пра былыя ці незваротна перабудаваныя збудаванні. Дзякуючы шматлікім рэпрадукцыям шырока вядомыя акварэлі Смуглевіча, якія зафіксавалі браму віленскай гарадской сцяны і разваліны каралеўскага замка ў Вільні. У 1802 годзе разам з братам Антоніем Смуглевічам дэкараваў залу пасяджэнняў у Галоўнай віленскай школе, цяпер зала Смуглявічуса Віленскага ўніверсітэта (чытальная зала рэдкай кнігі бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта). Выканаў шэраг станковых карцін і манументальных размалёвак у храмах Беларусі (Мінск, Гродна, Полацк, Рэчыца, інш). Афармляў кнігі. Памёр у 1807 годзе ў Вільні.

**2005 год.** Памёр Алесь Емельянаў, паэт, адзін з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне".

### 7 КАСТРЫЧНІКА

**250 гадоў** з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага (1765 – 1833), кампазітара, дыпламата, дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, удзельніка паўстання 1794 года.

**1920 год.** У Сувалках падпісанае польска-літоўскае пагадненне, паводле якога была ўтвораная Сярэдняя Літва – польская марыянеткавая дзяржава.

### 8 КАСТРЫЧНІКА

**1920 год.** Бунт Першай літоўска-беларускай дывізіі супраць перадачы бальшавікамі Віленскага краю Літве.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ПАДЗЕІ

## "РГ" сустрэлася з чытачамі ў Ілы

ВІЛЕЙКА

Сустрэчу з чытачамі правяла "Рэгіянальная газета" ў Ільянскай сярэдняй школе ў пятніцу, 25 верасня.

Перад вучнямі, настаўнікамі і жыхарамі мястэчка выступіў галоўны рэдактар **Аляксандр Манцэвіч**. Ён распавёў, чаму варта чытаць "Рэгіянальную газету", хто стварае яе і як выданне паляпшае рэгіён.

Для гаспадароў выступіў беларускі гурт "Гутатэлі". Вучні падтрымалі выступоўцаў, узяўшыся за рукі.

У асобнай частцы праграмы журналісты "РГ" задавалі прысутным разнастайныя пытанні на веданне гісторыі, культуры і газеты. Тыя, хто даваў лепшыя адказы, атрымалі памятныя падарункі.

У адказ вучні школы разам з кіраўніком музея "Вілейшчына літаратурная" пры школе **Розай Шэрай** правялі экскурсію па музеях.

Падрабязней пра музеі чытайце на 6-й старонцы.

Аддзел інфармацыі.
Фота на сайце




## Воркаўт-пляцоўку адкрыюць 3 кастрычніка

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы 26 верасня павінны былі ўрачыста адкрыць пляцоўку для воркаўту ў гарадскім парку. Але адкрыццё перанеслі з-за моцнага дажджу, які ішоў зранку.

– Адкрыццё пляцоўкі не адбылося ў сувязі з неспрыяльнымі ўмовамі і вялікай небяспекай траўмаў, – патлумачыў удзельнік вілейскай каманды па воркаўце **Віталь Зубаці**. – Новая дата адкрыцця пляцоўкі – 3 кастрычніка а 13 гадзіне.

Будзем спадзявацца, на гэты раз надвор'е не ўнясе карэктывы ў планы.

Праграма засталася тая ж: выступленні камандаў па воркаўце з Вілейкі і Мінска, у тым ліку рэкардсмена свету ў воркаўце **Максіма Труханаўца**, конкурсы з гледачамі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

УЛАДА

## У Вілейцы прызначылі новага намесніка старшыні райвыканкама

ВІЛЕЙКА

Ад 16 верасня на пасаду намесніка старшыні Вілейскага раённага выканаўчага камітэта прызначылі **Аляксандра Чарменскага**.

Ён будзе курыраваць пытанні будаўніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

Аляксандр Чарменскі – ураджэнец вёскі Пагост Вілейскага раёна, паведаміла начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама **Людміла Елізарава.**

Новаму намесніку старшыні – 27 год. Атрымаў вышэйшую адукацыю: скончыў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт.

Да прызначэння працаваў дырэктарам таварыства "Аналаг-Буд".

Аддзел інфармацыі.

## Адкрылі новы будынак Мясоцкага сельвыканкама

МАЛАДЗЕЧНА

Афіцыйнае адкрыццё адбылося падчас чарговай выязной сесіі Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў 29 верасня.

Як распавёў старшыня сельвыканкама **Алег Горбач**, будынак гатовы прыняць работнікаў, стаць мэбля. Але пераедуць у новабуд у другой палове кастрычніка.

Сельвыканкам перанеслі з вёскі Мясата ў аграгарадок Выверы. Так больш зручна для большасці жыхароў: калі Мясата на ўскрайку тэрыторыі сельвыканкама, то Выверы прыкладна ў цэнтры.

Будаўніцтва офіса пачалі ў 2010 годзе. Цяпер акрамя кабінетаў для прадстаўнікоў мясцовай улады ў сельвыканкаме ёсць пакой для жаніха і нявесты, зала, у якой можна праводзіць пасяджэнні ці рэгістрацыі шлюбу.

Дэпутаты адзначылі адкрыццё пасадкай дрэў. Усяго паабапал сельвыканкама пасадзілі 27 дрэў. Чаму менавіта 27? Таму што іх пасадзілі дэпутаты 27-га склікання, адказаў Алег Горбач.

Аддзел інфармацыі.






На першым фотаздымку Сяргей Карзей – вучань 4 класа разам з настаўніцай Таццянай Ганчлеўскай. На другім здымку – Сяргей Карзей сёння. Фота забяспечанае Сяргеем Карзеем.





На фотаздымку злева Аляксандр Рамановіч у юнацтве, на здымку справа – сёння. Фота забяспечанае Аляксандрам Рамановічам. Фота справа – Наталлі Тур.

4 КАСТРЫЧНІКА – ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

# Школа навучыла пісаць дыктоўкі ў дзве рукі

**Напярэдадні Дня настаўніка, "Рэгіянальная газета" выпрашыла запытаць у вядомых людзей Маладзечна, чым ім запомніліся школьныя гады.**

Акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Сяргей Карзей** прыгадаў такую гісторыю:

"Пасля заканчэння пачатковай школы ў вёсцы Селеўцы я пайшоў у пяты клас васьмігодкі ў вёсцы Ермакі.

Там, па традыцыі, пасля ўсіх школьных сельгаспрац праводзіўся Дзень ураджаю. Уручалі падарункі, рыхтаваўся канцэрт, пасля былі танцы.

Дык вось хлопцы-старшакласнікі неяк пажартавалі, што на гэта свята будуць пускаць толькі тых, хто ўмее танцаваць. Я, вядома, паверыў і ўзяўся дома вучыцца танцаваць. Калі вы глядзелі фільм "Папялушка", то ўяўляеце сабе, як гэта рабіў я – з венікам.

І вось надышоў Дзень ураджаю, час танцаў. І я разумею, што з мяне пасмяяліся. Вучні школы танцавалі пад баян. Іграць запрашалі мясцовага жыхара. Хаця, як яны танцавалі? Старшакласнікі нешта там імкнуліся выраблядь нагамі, мы ж, малодшыя, сядзелі па кутах.

І вось аб'яўляюць белы танец… Да мяне падыходзіць настаўніца малодшых класаў **Ганна Іосіфаўна** і запрашае.

Я ў шоку ад таго, што яна запрасіла мяне, яна ў шоку ад таго, што я раптам з ёй закружыўся ў вальсе. Так з гэтага дня я стаў зоркай усіх танцавальных школьных вечароў.

Сёлета я сустрэў Ганну Іосіфаўну, нагадаў ёй гэту гісторыю. Доўга з ёй смяяліся. А было гэта ў далёкім 1970 годзе".

### Як за Сашу сварыліся дзве настаўніцы

Начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Рамановіч** прызнаўся, што ў школе быў выдатнікам.

Ён удзельнічаў у алімпіядах па матэматыцы, фізіцы і англійскай мове.

Але культура, сцэна вабілі яго з дзяцінства:

– Я памятаю, як яшчэ да школы, мне было гадоў пяць, залез на гарышча ў хаце. Там знайшоў гармонік свайго хроснага бацькі. І так мне было дзіўна, што калі націскаеш на розныя кнопачкі, атрымоўваецца розны гук.

Маці так па гуках і знайшла мяне на гарышчы.

Потым Аляксандр сам асвоіў гэты інструмент.

– Пра мяне, яшчэ калі я школьнікам быў, вялікі артыкул у часопісе "Маладосць" напісалі.

У Чысцінскай васьмігадовай школе, якую Аляксандр Рамановіч скончыў у 1973 годзе, быў музыкантам на кожным свяце.

– А я яшчэ маляваў добра. Бывала настаўніца **Вера Асіповіч** казала мне пасля ўрокаў: "Я ўзяла табе ссабойку, еш і малюй сценгазету". Так і атрымоўвалася, што больш часу праводзіў у школе, чым дома.

Пасля заканчэння восьмага класа Аляксандр Рамановіч падаў дакументы ў Мінскае педагагічнае вучылішча на спецыяльнасць культурна-асветніцкая дзейнасць.

– Другога ці трэцяга верасня ў Мінск прыехалі мае дзве настаўніцы: першая – **Зоя Шалухіна** і класны кіраўнік **Вера Сцяпанаўна.**

Класная кажа: "Забірай дакументы, які з цябе работнік культуры? Саша, табе трэба ісці ў матэматыкі". А першая настаўніца Веры Сцяпанаўне адказвае: "Правільна зрабіў, што пайшоў у культуру. І няма чаго збіваць з толку хлопца". Ледзьве не пабіліся за мяне.

А калі прыгадаць смешны выпадак у школе, то на памяць прыходзіць тое, як я аднойчы кантрольную дыктоўку пісаў у дзве рукі.

Была кантрольная дыктоўка Міністэрства адукацыі па рускай мове. Са мной сядзела дачка дырэктара школы – **Галя Бабская.**

І на момант дыктоўкі яна зламала руку. А прапусціць жа нельга, міністэрская ж.

Вось мне і загадалі пісаць адначасова дзве дыктоўкі: за сябе і за яе.

Потым, як і бывае, ёй я напісаў на пяцёрку, а ў сваёй адну коску прапусціў. Паставілі чатыры.

Нашы героі шкадуюць толькі аб тым, што апошнім часам вельмі рэдка ўдаецца наведваць вечары сустрэч, але час павіншаваць сваіх настаўнікаў абзацам знайсці.

Наталля ТУР.

ПАМЯЦЬ

# Сродкі на будоўлю збіралі грамадой

## Браму-капліцу ў гонар загінулых воінаў Першай сусветнай адкрылі ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**– Мой прадзед вярнуўся з гэтай вайны сляпым. Пасля газавых атак аслеп. Гэта было прыкладна недзе ў гэтых мясцінах, – разважае архітэктар з Мінска Віктар Буры.**

Ён адзін з тых, хто спрычыніўся да ўзвядзення брамы-капліцы ў Вілейцы. Адкрылі яе 26 верасня.

– Ці задаволены, як ваш праект увасобіўся?

– Так. Рады таму, што ён выканаваны якасна, у тым выглядзе, як і задумвалася. Гэта заслугоўвае вялікіх слоў удзячнасці. І найперш – **Барысу Барысавічу Цітовічу**, які прыклаў шмат сіл і энергіі. Галоўнае, што гэта застанецца ў памяці не толькі тых, хто прымаў удзел ва ўзвядзенні. Моладзь, якая і праз многія гады прыйдзе, убачыць капліцу і будзе памятаць. Дапамога ў яе ўзвядзенні – лічу, што гэта мой абавязак, гэта памяць пра прадзеда.

### Узводзілі ўсёй грамадой

Размешчаная брамакапліца на ўваходзе на гарадскія могілкі па вуліцы 1 Мая. Тут пахаваныя загінулыя ў баі за Вілейку воіны. Было ўсяго каля 300-х магіл. Але з цягам часу магілы пачалі зарастаць. І паверх іх пачалі хаваць гараджан.

Каб ушанаваць памяць воінаў Першай сусветнай, з'явілася ідэя пабудаваць капліцу. Ініцыятарам яе ўзвядзення стаў мастак і стваральнік мемарыяльнага комплексу ў Заброддзі Барыс Цітовіч. Разам з краязнаўцам і архітэктарам **Анатолем Капцюгом** ён распрацаваў эскіз. Архітэктар **Людміла Луцэвіч** рыхтавала праект ахоўнай зоны помніка. Архітэктар Віктар Буры зрабіў праектна-каштарысныя дакументы з усімі разлікамі.

Пачалі ўзводзіць браму-капліцу ў 2013 годзе. Будавалася яна за кошт сродкаў, якія збіралі ўсёй грамадой.

### Успомнілі ўсіх пайменна

У суботу зранку прайшлі памінальныя службы ў вілейскіх храмах. Потым асвяцілі браму-капліцу. Сюды прыехалі і рэканструктары з ваенна-гістарычных клубаў.

З-за дажджу частку мерапрыемстваў перанеслі ў кінатэатр "Мір". Тут узнагародзілі людзей, якія спрычыніліся да ўзвядзення капліцы. Намеснік старшыні райвыканкама **Святлана Дзяруга** уручыла падзякі старшыні раённага выканаўчага камітэта архітэктарам Людміле Луцэвіч і Віктару Бураму.

Былі іншыя ўзнагароды – ад Беларускага саюза суворайцаў і кадэтаў, казацтва Беларусі, благачыннага Вілейскай акругі протаіерэя **Аляксандра Шмырко**.

Шмат узнагарод прызначалася Барысу Цітовічу. Ён прызнаваўся, што нават засаромлены такой увагай:

– На самой справе я выконваў свой абавязак перад сваімі продкамі, які прымалі ўдзел у гэтай вайне. Тое, што капліца з'явілася ў Вілейцы, значыць, што мы выкарысталі шанец, які даў Гасподзь, каб рэанімаваць у пэўнай меры сваю памяць.

Вельмі важна тое, што ў храме праз 100 год пайменна прагучалі імёны воінаў, якія былі забытыя, падкрэсліў Барыс Цітовіч:

– Мы паднялі заслону забыцця, паўтарылі іх імёны ўголас і нанеслі на камяні. Гэта вельмі важна – найперш, для нас усіх. Вялікі вам усім дзякуй. Таму кожны нейкім чынам да гэтага дакрануўся: хто сэрцам, хто матэрыяльна, хто фізічна.

### "Мала дзе ўмеюць так ушаноўваць сваю памяць, як на Вілейшчыне"

У кінатэатры паказалі фрагменты літаратурна-музычнай кампазіцыі "З вайны лісткі паходнага сшытка" і дакументальны фільм. Гучалі казацкія песні, прайшлі прэзентацыі кніг, прысвечаных Першай сусветнай.

Пісьменнік і тэлевядучы **Вячаслаў Бандарэнка** прадставіў кнігу "Заходні шчыт Расійскай імперыі" і прызнаўся:

– Я бываў у многіх месцах, звязаных з Першай сусветнай вайной – не толькі ў Беларусі, а і за мяжой. І гледзячы вам у вочы, магу шчыра сказаць, што мала дзе ўмеюць так ушаноўваць сваю памяць, сваіх герояў, людзей, якія сумленна і храбра выконвалі воінскі абавязак, як гэта робіце вы, на Вілейшчыне.

Пра гісторыю стварэння кнігі "На лініі агню. Відавочцы аб баях за Вілейку ў верасні 1915 года" расказаў адзін з яе саўтараў навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Андрэй Каркотка**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Ля капліцы Валянціна і Барыс Цітовічы, архітэктар Віктар Буры (у цэнтры).

НАВІНЫ

## “Смаргонь” абыграла аўтсайдара

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб “Смаргонь” дома 27 верасня прымаў аўтсайдара, “Рэчыцу-2014”. І перамог 4:1.

Першы тайм завяршыўся ўнічыю 1:1. У другім за дзве хвіліны смаргонцы вырашылі лёс матча, забіўшы на 65-й і 66-й хвілінах. А чацверты гол уляцеў у вароты гасцей за пяць хвілін да канца сустрэчы.

На фан-сектары было каля 30 чалавек, расказвае заўзятар “Смаргоні” **Арцём Войтка**:

– Матч прайшоў з перавагай нашай каманды, – ацэньвае ён гульню. – Шмат момантаў не рэалізавалі, і вось на контратацы прапусцілі гол “у распранальню”. У перапынку зрабілі замены, што прыкметна ўзмацнілі гульню. Выйшлі **Казко і Бандарэнка**. Ва Уладзіміра Казко атрымалася забіць. А вось Сяргею крыху не пашанцавала: пасля ўдару метраў з 25-ці меч ледзь-ледзь размінуўся з верхнім вуглом варот. Хачу адзначыць маладога **Ануфрыева**. Было бачна, што хлопец стараўся, але вось не шанцавала яму, быў не яго дзень.

Каманда гуляе здавальняюча, робіць выснову Арцём:

– Але губляць ачкі з такімі камандамі, як “Орша”, “Баранавічы”, і саступаць дома “Зорцы-БДУ” немажліва.

Галоўны трэнер “Смаргоні” **Мікалай Рындзюк** прызнаецца:

– Гульні з сапернікамі з ніжняй часткі табліцы, на жаль, даюцца нам з цяжкасцю. Папярэджвалі хлопцаў, прасілі паставіцца сур’ёзна, але ўсё роўна адчувалі праблемы ў дасягненні перамогі, – прыводзіць яго словы афіцыйны сайт клуба. – Калі лік быў 1:1, футбалісты нерваваліся, гульня не складвалася. Пасля другога забітага гола хлопцы разняволіліся і дамагліся буйной перамогі.

## “ДЮСШ-4” з Маладзечна забіла 10 галоў

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Гульні 21 тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе каманды з рэгіёна правялі дома.

“ДЮСШ-4” з Маладзечна 27 верасня не пакінула шанцаў “Крупкам-ДРБУ-164” – 10:2.

Адрыў маладзечанцаў ад лідара, “Коласа”, скараціўся да двух ачкоў.

“Вілія” сустракалася з “Капылём” і перамагла 2:0.

– Мы выглядалі лепш, добрыя атакі праводзілі, – расказвае прадстаўнік “Віліі” **Алег Гулевіч**. – Першы гол прыгожа забіў **Аляксандр Грыхуцік**: прыняў мяч і злёту прабіў. А ў канцы першага тайма вызначыўся **Віктар Сяліцкі**.

У другім тайме галоў гледачы не ўбачылі, хоць моманты ў віляйчан былі.

– Хацеў бы падзякаваць заўзятарам “Віліі”: актыўна прыходзяць на матчы, падтрымліваюць. Гэта сапраўдны наш “12 гулец”, – кажа Алег Гулевіч.

А “Забудова-Буд” свой матч 21 тура правяла яшчэ 19 верасня. У ім буйна саступіла “Старым Дарогам” 2:7.

## Каманда з Мядзела пачала з перамогі

МЯДЗЕЛ

Каманда “Мядзел ФАЦ” з перамогі стартавала ў чэмпіянаце адкрытай аматарскай валейбольнай лігі Мінска. У другім дывізіёне 27 верасня мядзяльчане абыгралі каманду “Адрэналін”. Лік па партыях 3:1.

## У Вілейцы вызначалі лепшых бегуноў

ВІЛЕЙКА

Спаборніцтвы па лёгкаатлетычным кросе адбыліся 24 верасня. Праходзілі яны ў межах круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў Вілейскага раёна.

Спаборнічалі ва ўрочышчы Дубайка.

Прынялі ўдзел сем камандаў. У кожнай былі па два мужчыны і адна жанчына.

Мужчыны беглі адзін кіламетр, а жанчыны – 500 метраў. Каманда пераможца вызначалася па суме занятых месцаў усімі ўдзельнікамі, расказаў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы “Сатурн” **Аляксандр Вайда**.

У выніку перамаглі прадстаўнікі мэблевай фабрыкі. На другім месцы – каманда “Зеніт-БелОМА”, на трэцім – водаканала.

## “Ашмяны” пачалі фінальную частку з паражэння

АШМЯНЫ

Футбольны клуб “Ашмяны” ў першай гульні фінальнай часткі чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе 26 верасня дома сустракаўся з камандай “Прамень” (Мінск). “Ашмяны” прайгралі 1:2.

“Ашмяны” пакуль на пятым месцы з васьмі камандаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Заўзятары, якіх у аўтарак на трыбунах Лядовага палаца было багата, радуюцца перамозе сваёй каманды. Фота прэсслужбы ХК “Дынама-Маладзечна”.

ХАКЕЙ

# “Дынама-Маладзечна” выйшла ў фінал Кубка Салея

МАЛАДЗЕЧНА

**Хакейны клуб “Дынама-Маладзечна” ў аўтарак, 29 верасня, у другім паўфінальным матчы супраць наваполацкай каманды “Хімік-СКА” здабыў права пазмагацца за Кубак Руслана Салея ў фінале.**

Гульню пракаментаваў прэс-сакратар каманды “Дынама-Маладзечна” **Максім Стаян:**

– Стартавыя хвіліны сустрэчы прайшлі ў роўнай барацьбе. Да небяспечных кідкоў, калі і даходзіла, то вельмі рэдка. Першымі вызначыцца маглі “зубры”, але **Аляксей Аўтаеў**, на жаль, не змог перайграць варатара гасцей. А крыху пазней дынамаўцам давялося ўжо думаць аб абароне ўласных варот – “беласінія” 54 секунды дзейнічалі ў фармацы 3 на 5 – і выстаялі!

Пасля гэтага падачы **Дзмітрыя Краўчанкі** сталі насядаць на вароты гасцей. І калі спачатку “зубры” прыстрэльваліся, то затым двойчы закінулі. Першым вызначыўся **Ягор Воранаў**, які адправіў шайбу дакладна ў “дзявятку”, а перавагу ў першым перыядзе падвоіў **Аляксандр Сёмачкін.**

Не паспеў секундамер адлічыць і хвіліну пасля старту другога перыяду, як абедзве каманды ўжо зарабілі па адным выдаленні. Пагуляўшы трохі поўнымі пяцёркамі, супернікі тут жа зноў схапілі узаемныя штрафы – гульня працягвалася 4 на 4.

– Не дачакаўшыся дзевяці секунд да поўнага складу, – працягвае Максім Стаян, – маладзечанцы засталіся ў меншасці, якое і прывяло да першага голу ў нашы вароты. Варта адзначыць, што шайбу ў вароты **Максіма Гарадзецкага** закінуў экс-дынамавец **Мікіта Волес.** А літаральна ў наступнай атацы госці лік зраўнялі – 2:2.

Нічыйны лік перад трэцім перыядам пакідаў для гасцей надзею на іх перамогу. Каб трапіць у фінал, “Хіміку-СКА” трэба было закінуць двойчы ў асноўны час, пры гэтым не прапусціўшы.

З месца ў кар’ер кінуліся “хімікі”, пастаянна пагражаючы варотам Максіма Гарадзецкага, але закінуць атрымалася толькі аднойчы. Пры ліку 2:3 гледачоў і хакеістаў чакаў дзесяціхвілінны авертайм да першай закінутай шайбы. Але яе так і не было – лёс пуцёўкі ў фінал вырашыўся ў серыі буліта́ў.

На пасляматчавыя штрафныя кідкі нашы вароты выйшаў абаранца **Міхаіл Карнавухаў** і тройчы адбіў кідкі гасцей. А вось у нашы адзін раз закінуў **Артур Дрындрожык**, які і вывеў “Дынама-Маладзечна” ў фінал Кубка Салея.

Артур Дрындрожык пасля перамогі прызнаўся:

– Буліты – гэта мая “каронка”, я яшчэ ў пазамінулым сезоне так двойчы забіваў. Але перажываў, каб рукі не падвялі ў апошні момант, адчуваў адказнасць. Дзякуй, што даверылі мне кідаць. З перамогай! І заўзятарам вялікі дзякуй, што падтрымалі нас у цяжкую хвіліну!

**Наталля ТУР.**

АТЛЕТЫКА

## Прабег адбыўся, нягледзячы на дождж

МАЛАДЗЕЧНА

**Паўмарафон “Залатая восень”, прымеркаваны да Дня машынабудаўніка, прайшоў у сталіцы ў нядзелю, 27 верасня.**

Усе ўдзельнікі з Маладзечна вярнуліся з прызамі. Як распавёў пастаянны ўдзельнік прабегаў маладзечанец **Васіль Лябецкі**, нягледзячы на надзвычай неспрыяльнае надвор’е, на дыстанцыю выйшла каля 300 бегуноў з усёй Беларусі.

Беглі адзін, 12 і 21,1 кіламетра. Стартавалі каля культурна-спартыўнага комплексу “Чыжоўка-Арэна”.

– Я шмат гадоў удзельнічаю ў забегах, не першы раз і ў “Залатой восені”, – распавядае спадар Васіль. – І ніколі раней такога жудаснага надвор’я не было. Аднак што ж зробіш, пераапрануліся і пабеглі. Толькі пад канец, калі ўганароўвалі пераможцаў, дождж крыху суцішыўся. Пасля ўжо нас частавалі і гарбатай, і печывам, і абаранкамі – можна было аб’есціся.

Васіль Лябецкі, які бег 21,1 кіламетра, заняў першае месца ў сваёй узроставай катэгорыі 65-69 гадоў.

Акрамя падарункаў кожнаму, усёй маладзечанскай камандзе “Рэгіён” падарылі кавун.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота забяспечана Васілём ЛЯБЕЦКІМ.

Васіля Лябецкага дождж не палохае.

● РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**АДКРЫЦЦЁ 25 ЮБІЛЕЙНАГА ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА**

**РЭПЕРТУАР НА КАСТРЫЧНІК**

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Кот у ботах**" (музычная казка), *Вольга Ліс*
6, 13, аўторак, 20, чацвер, – у 11:30

"**Всё будет хороШОУ!**" (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
15, чацвер, 22, серада, – у 11:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), Уладзімір Рудаў
7, серада, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
8, чацвер, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Дзядзечкаў сон**" (камедыя мардасаўскіх нораваў), *Фёдар Дастаеўскі*
13, аўторак,
28, серада, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Афінскія вечары**" (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*
14, серада, – у 19:00

**СПЕКТАКЛЬ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ДНЮ МАЦІ**

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
15, чацвер, – у 19:00

"**Свінтус грандыёзус, альбо Хто смяецца апошнім**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Кандрат Крапіва*
20, аўторак, – у 19:00

"**Чатыры навелы пра каханне**". *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
21, серада, – у 19:00

"**Псіхааналітык для псіхааналітыка**" (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*
22, чацвер, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Аблом OFF**" (лірычная камедыя ў 2-х дзеях), *Міхаіл Угараў*
27, аўторак, – у 19:00

"**Любоў па-італьянску**" (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э. дэ Філіпа "Цыліндр"), *Эдуарда дэ Філіпа*
29, чацвер, – у 19:00

"**Не такі, як усе**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі*
30, пятніца, – у 19:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**

*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32, 75-29-16.**
E-mail: modt@tyt.by
http://theatre-modt.by

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Прывітанне для Мартышкі**" (камедыя ў 2-х дзеях, бел.), Р.Осцер
18 кастрычніка – у 12:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Кот у ботах**" (казка-прыгода, рус.), Г.Уладычына
25 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. (8-0176) 75-36-73, 76-84-27.

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804



● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 3 | | | | | 9 | | |
| | | | 4 | 9 | 3 | | | |
| | 6 | 2 | | | | 3 | | |
| 8 | | | | 3 | 9 | | | 7 |
| 5 | | | | | | | | 9 |
| 2 | | | 1 | 5 | | | | 8 |
| | | 7 | | | | 4 | 9 | |
| | | | 3 | 4 | 2 | | | |
| | | 5 | | | | | 2 | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ



Фота забяспечана Святланай МАЦКЕВІЧ.

**Навучэнец другога курса Вілейскага дзяржаўнага каледжа Дзяніс Кароль упрыгожыў сцяну балкона цырульні "Лада" жывапісная выявай каня на лужку. Падрабязней пра добраўпарадкаванне ўстановы адукацыі чытайце на сайце rh.by.**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Гістарычная драма "**Вылечыць страх**" (Украіна, Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
2-7 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Трылер, драма "**Эверэст**" (3D, ЗША, Вялікабрытанія, Ісландыя, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
1, 5 кастрычніка – у 22:30
2, 3, 4, 6, 7 кастрычніка – у 20:10
Цана білета: 55 000-60 000 рублёў

Камедыя "**Стажор**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
3, 6 кастрычніка – у 22:40
Цана білета: 50 000 рублёў

Баявік, фантастыка "**Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
4, 7 кастрычніка – у 22:40
Цана білета: 60 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя, прыгоды "**Перапалох у джунглях**" (3D, Мексіка, Паўднёвая Карэя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
1, 2 кастрычніка – у 16:10
3, 4 кастрычніка – у 13:50
Цана білета: 15 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер, драма "**Мы, браты...**" (Беларусь, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1, 5 кастрычніка – у 20:10
2 кастрычніка – у 22:40
3, 4 кастрычніка – у 15:40
Цана білета: 45 000-50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, камедыя, фэнтэзі "**Сёмы гном**" (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
3, 4 кастрычніка – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Прыкінься маім хлопцам**" (Францыя, 2012, пасля 16 год)
2 кастрычніка – у 19:30
3 кастрычніка – у 17:00
4 кастрычніка – у 19:00
5 кастрычніка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Суперфарсаж**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
2 кастрычніка – у 17:30
3 кастрычніка – у 19:00
4 кастрычніка – у 17:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер, баявік, крымінал, дэтэктыў "**Ганмэн**" (ЗША, Іспанія, Францыя, Вялікабрытанія, 2015, пасля 18 год)
2 кастрычніка – у 21:30
3, 4 кастрычніка – у 21:00
5 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Меладрама, драма "**Сірэна**" (ЗША, Францыя, Чэхія, 2014, пасля 16 год)
6, 7 кастрычніка – у 19:00
8 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "Каханне ад усіх хвароб" (Францыя, 2014, пасля 16 год)
6, 7 кастрычніка – у 21:00
8 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

**Забраніраваць білет можна праз сэрвіс на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Фэнтэзі "**Пасвячоны**" (ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
2 кастрычніка – у 17:30
3 кастрычніка – у 20:00
4 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Рука д'ябла**" (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
2 кастрычніка – у 19:30
3 кастрычніка – у 18:00
4 кастрычніка – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Кінадзяцінства. Пры лысую прынцэсу**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
3, 4 кастрычніка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Гістарычны, драма "**Вылечыць страх**" (2D, Украіна, Беларусь, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
2, 4 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Баявік, трылер "**Мы, браты**" (2D, Беларусь, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
2 кастрычніка – у 20:00
3 кастрычніка – у 16:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Перапалох у джунглях**" (3D, Паўднёвая Карэя, Мексіка, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
3 кастрычніка – у 12:50
4 кастрычніка – у 13:50
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Кунг-фу Трусік: Валадар агню**" (3D, Кітай, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
3 кастрычніка – у 14:30
4 кастрычніка – у 12:00
Цана білета: 30000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём**" (3D, ЗША, пасля 16 год)
3 кастрычніка – у 20:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**Стажор**" (2D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 кастрычніка – у 15:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Жахі "**Пікавая дама: Чорны абрад**" (2D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 кастрычніка – у 20:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

● ГАРАСКОП
2-8 КАСТРЫЧНІКА

**Авен.** Вас чакае сустрэча, якая паўплывае на погляды і назаўсёды зменіць ваша жыццё. А вы і праз шмат гадоў будзеце ўспамінаць яе і дзякаваць лёсу, што так адбылося.

**Цялец.** Усё, што вам цяпер трэба, дык гэта займець унутраны спакой, пабалей бываць на прыродзе, адчуць яе прыгажосць і адзінства.

**Блізняты.** Вучыцеся быць шчаслівымі, вучыцеся ва ўсіх бачыць толькі добрае.

**Рак.** Рашыцца на шлях у невядомае, насуперак сваім страхам і перааадолеўшы свае звычкі – гэта не ўсім па сілах. Шлях гэты тоіць у сабе мноства прыгод, небяспеку, а таксама магчымасць зразумець сябе і дасягнуць новых вяршынь.

**Леў.** Не распачынайце некалькі спраў адначасова, бо не зможаце давесці іх да канца. Падумайце над прыярытэтамі. Пазбягайце пустых размоў і людзей, якія не настроеныя на работу.

**Дзева.** Карысна сімвалічна з чымсьці расстацца. Час ад часу пазбаўляйцеся ад непатрэбнага, гэта дасць вам прастору для паступлення новай энергіі.

**Шалі.** Будзьце добразычлівыя да іншых людзей, даруйце ім памылкі і дапамагайце па магчымасці.

**Скарпіён.** Гэты перыяд запомніцца вам надоўга. Вы будзеце на сёмым небе ад шчасця.

**Стралец.** У вас будзе дастаткова энергіі і сіл, каб прыкласці сабе дарогу ў будучае і значна па ёй прасунуцца наперад. А яшчэ будзе поўна ідэй, галоўнае ўсе запомніць, каб пасля абавязкова рэалізаваць.

**Казярог.** Вам трэба сабрацца з сіламі. Што трэба рабіць – вы ўжо і самі ведаеце, рашучасці вам не займаць. Цяпер настаў той момант, калі марудзіць нельга, а неабходна дзейнічаць.

**Вадалей.** Усе дні будзе панаваць добры настрой і адчуванне свята. Нейкая вечарынка, сустрэча са сваякамі, прыемныя моманты ва ўтульнай дамашняй абстаноўцы. Ёсць шанс адправіцца ў далёкае падарожжа.

**Рыбы.** Вы многага дасягнулі і можаце ганарыцца сабой. Але вас мучаць страхі, перажыванні і нават бяссонніца з-за таго, што нешта ідзе не па вашым сцэнарыі. Не перажывайце, проста часам розум бярэ верх над эмоцыямі і іх становіцца нябачна няўзброеным вокам.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар
+375 (29) 67-68-420,
на e-mail regionnews@rh.by
або пакінь каментар на
Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

● НАДВОР'Е

## 3 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +10 / +11 | | +9 / +13 | | +8 / +12 | | +8 / +16 | |
| | 745 | → 7 | 746 | → 3 | 746 | ↑ 6 | 740 | ↑ 4 |
| Вільня | +9 / +13 | | +10 / +15 | | +9 / +15 | | +9 / +16 | |
| | 753 | → 8 | 755 | → 3 | 755 | ↑ 5 | 748 | ↑ 2 |

Тэмпература паветра; Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.); Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.18
Захад 18.47
Даўжыня дня 11.29

Усход 22.17
Захад 13.46
Квадра 3

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +10 / +16 | 751 | ↘ 6 |
| Гродна | +12 / +14 | 755 | ↘ 1 |
| Мінск | +9 / +13 | 746 | → 3 |
| Магілёў | +9 / +17 | 750 | ↘ 4 |
| Брэст | +7 / +15 | 745 | ↑ 3 |
| Гомель | +8 / +13 | 753 | ↘ 4 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -2,4 °C у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +21,7 °C у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18,7 мм у 2003 годзе
Назіранні за 60 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Працягваем спецпраект "Рамонт": як зрабіць якасны рамонт у санвузле, як выбраць душ, што рабіць, калі праткнулі нацяжную столь.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ?

## Ці трэба адмяніць хатняе заданне ў школах?

**Напярэдадні Дня настаўніка высвятляем думкі на гэты конт.**

**Арцём Гнілазуб, вучань гімназіі №10:**
– На мой погляд, варта змяніць саму сістэму навучання. Каб вучні засвойвалі матэрыял на ўроках. А то спачатку шмат урокаў, потым неймаверная колькасць "дамашкі" – і вольнага часу зусім не застаецца. Да іспытаў даводзіцца наймаць рэпетытараў, таму што ўсё забываецца.

**Наталля Шаюк, настаўніца рускай мовы і літаратуры гімназіі №10:**
– У залежнасці ад прадмета. Па літаратуры нельга адмяняць хатняе заданне, таму што тады дзеці перастануць чытаць. За 45 хвілін хіба вывучыш "Вайну і мір"? Па мове гэта, у прынцыпе, магчыма, але тады трэба пакінуць хаця б вусныя заданні, каб вучні паўтаралі правілы.

**Наталля Казулька, маці трэцякласніка:**
– Сын вучыцца ў другую змену. Урокі робім разам да позняга вечара. Цяжка, але трэба. Хатняе заданне арганізуе дзіця, дапамагае замацоўваць вывучанае. У гэтым узросце наша задача як бацькоў навучыць дзіця вучыцца, накіроўваць і кантраляваць.

**Алена Насевіч, сацыяльны педагог гімназіі №10, маці адзінаццацікласніцы:**
– Я думаю, што не варта задаваць дамашняе заданне ў пачатковай школе. А вось старшакласнікам трэба прывучацца старанна працаваць не толькі ў школе, але і дома. Бо не за гарамі паступленне ў ВНУ.

Падрыхтавала
Дар'я СВІРЫДА, школа журналістыкі "Маладзік".



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№40 (1066) 2.10.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. . Падпісана ў друк у 9.00 1.10.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.